Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 30 | Год выдання 1-ы | 20 лістапада 1935 г. | № 30



## СТАХАНАЎСКІЯ МЕТАДЫ РАБОТЫ Ў СОВЕЦКІ ГАНДАЛЬ.

### ПАСТАНОВА

**Наркамунутгандля БССР, Прэзідыума Саюза Работнікаў Дзяржгандля і Прэзідыума Саюза Работнікаў Кааперацыі.**

г. Менск. 27 кастрычніка 193 5 г

У мэтах разгортвання стаханаўскага руху сярод работнікаў гандля і папулярызацыі метадаў і вопыта гандлёвай работы перадавых людзей гарадскога гандля, для распрацоўкі канкрэтных пытанняў палепшання гандлёвай работы,—лічыць неабходным правесці ніжэйнаступныя сходы гандлёвых работнікаў г. Менска па спецыяльнасцям:

1. Сход работнікаў хлебнага гандля—31/Х—г. г., адказныя за арганізацыю схода—т.т. **Малаў, Малкін, Лабанаў.** Дакладчык т. **Малаў**, садакладчыкі два лепшых заг. маг. або прадаўцы хлебнага гандля (адзін Менхарчгандля, адзін Горспажыўсаюза).

2. Сход бакалейшчыкаў і гастранамістаў—2/ХІ—г. г. адказныя за арганізацыю—т.т. **Гурэвіч** (Белгастраном), **Ціменка і Варабейчык**, дакладчык т. **Гурэвіч**, садакладчыкі—два лепшых бакалейшчыка, гастранаміста г. Менска.

3. Сход работнікаў мяса-калбаснага гандля—3/ХІ. Адказныя за арганізацыю—т.т. **Рубін** (Наркамунутгандль), **Хейфец**—Менхарчгандль, **Сенкевіч**—Горспажыўсаюз. Дакладчык т. **Рубін**, садакладчыкі—два лепшых работніка мяса-калбаснага гандля —г. Менска.

4. Сход работнікаў фруктова гародняга гандля—10 ХІ. Адказныя за арганізацыю—т. т. **Брэль, Гелін** і **Сільвестраў**—Горспажыўсаюз. Дакладчык т. **Сільвестраў**, садакладчыкі—т. **Скабло**—лепшая прадаўшчыца фруктаў-гародніны ў г. Менску.

5. Сход работнікаў па гандлю вучэбнікамі і школьна-пісьмовымі прыладамі — 4/ХІ. Адказныя за арганізацыю т. т. **Прылуцкі, Біргер і Рэйніч.** Даклад т. **Прылуцкага**, садаклады двух лепшых работнікаў па гандлю вучэбнікамі і пісьмовымі прыладамі.

6. Сход работнікаў па гандлю тэкстыльна-швейнымі таварамі і галаўнымі ўборамі—12 ХІ. Адказныя за арганізацыю т. т. **Дуберштэйн, Шмуклер** (Швейзбыт) **Кузнецоў** (Хлопказбыт) і **Іоновіч** (НКУГ), **Плоткін** (Горспажыўсаюз) **Броншгэйн** (Менгандаль). Даклад т **Дуберштэйна**, садаклад—двух лепшых адзежнікаў і мануфактуршчыкаў

7. Сход галантарэйшчыкаў—14/ХІ. Адказныя за арганізацыю т. т. **Кіслік** (НКУГ), **Алер** (Горспажыўсаюз), **Сакалоў** (Белгандаль), **Файнберг** (ГУМ). Дакладчык т. **Кіслік**, садакладчыкі—лепшыя два галантарэйшчыкі.

8. Сход работнікаў пасудна гаспадарчага гандля—16/ІХ. Адказныя за арганізацыю т. т. **Розін** (Белгандаль), **Фельдман, Нейфах.** Даклад т. **Розіна**, садаклады т.т. **Нейфаха і Зайчык.**

9. Сход работнікаў меблёвага гандля—18/ХІ. Адказныя за арганізацыю т. т **Броншгэйн** (Менгандаль), **Хініч** (ГУМ) **і Гутфрайндт** (Наркамунутгандль). Дакладчыкам зацвердзіць т. **Броншгэйна**, садаклады т. т. **Хініча** і аднаго з лепшых прадаўцоў мэблі.

10. Сход работнікаў скур-абутковага гандля абутак, гумавыя тавары, шорныя тавары, скур-галантарэя, валеная вытворчасць)—20 ХІ. Адказнасць за арганізацыю ўскласці на т. **Сакалова** (Белгандль), **Файнберга** (ГУМ) **Плоткіна** (Горспажыўсаюз), **Гардона** (Скурснабзбыт) і **Верхалеўскага** (Рэзіназбыт). Дак-

лад т. **Плоткіна**, садаклад лепшых работнікаў скурабутковага гандля.

11. Прапанаваць Горунутгандлям, кіраўнікам гандлюючых арганізацый, Гаркомам саюза іншых гарадоў — склікаць аналагічныя сходы, забяспечыўшы дасканалую іх падрыхтоўку.

12. Лічыць неабходным, каб да правядзення сходаў абавязкова ў кожным магазіне былі-б скліканы вытворчыя нарады, дзе абгаварваліся-бы канкрэтна пытанні работы данага магазіна, выявіліся-бы лепшыя метады работы па паасобным прафесіям, выявіўшы перадавых людзей гандля, нараду з імі таксама адстаючых работнікаў.

13. Абавязаць кіраўнікоў Белхарчгандля, Белгандля, ЦРК, Горспажыўсаюза і кіраўнікоў астатніх гандлюючых арганізацый Наркамунутгандля і кіраўнікоў профсаюзных арганізацый, забсяпечыць дзелавы змест работы гэтых сходаў.

14. Абавязаць т. т. **Ціменка, Кантара і Гурэвіча** (Белгастраном), **Рубіна** (НКУГ), **Крэйніна** разглядзець пытанне аб кіраўніцтве рацыяналізатарскім рухам у гандлі, аб стварэнні фондаў па прэміраванню рацыяналізатараў, прадставіўшы свае прапановы ў Наркамунутгандль не пазней 1/XI г.г.

15. Арганізацыю ўсёй работы па скліканню схода і выкананню гэтай пастановы ўскласці на т. **Саф'яна,** т. **Берхіна,** ЦП Саюза работнікаў дзяржгандля—на т. **Варабейчыка** і т. **Кумок**—члена прэзідыума саюза работнікаў кааперацыі.

Нарком Унутранага Гандля БССР **(Гурэвіч)**

Старшыня ЦП Саюза Работнікаў
Дзяржгандля **(Захарава)**

Старшыня ЦП Саюза Работнікаў
Кааперацыі **(Карпусенка)**

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ З першага лістапада 1935 г. зніжаны спецыяльныя аптовыя цэны камерцыйных лесаскладаў наркамлеса на круглы лес у размеры 20 проц., піламатэрыялы—15 проц. і сталярныя пліты—25 проц. гандлёвыя накідкі застаўлены ў існуючых размерах.

◆ Наркамунутгандль БССР абавязаў усіх Горрайунутгандляў строга сачыць за поўнай выбаркай хлебавыпякаючымі і хлебагандлюючымі арганізацыямі вызначаных ім фондаў мукі, крупы і фуража і аб усіх выпадках перабояў у гандлі хлебапрадуктамі і фуражом па прычыне невыбаркі арганізацыямі фандоў, згодна іх заказаў, неадкладна паведамляць Наркамунутгандлю для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

◆ Згодна пастановы Наркамунутгандля БССР ліквідаваны наступныя ЗРК: па г. Менску—ЗРК „Варашылава", „Окцябр", „Большэвік", „Кірава" і УВСР; па г. Гомелю—ЗРК Дрэваапрацоўчага камбіната ім. Гікало і ЗРК „Спартак".

◆ Рознічная прадажная цана чырвоных памідораў, завезеных з Херсона Белплодагандлем, устаноўлена ў размеры 1 руб. за кгр. першага гатунка і 60 кап. за кгр. другога гатунка.

◆ Наркамунутгандль БССР устанавіў наступную спецыяльную адпускную і рознічную цану на матэрыялы, рэалізуемыя ва ўзорным камерцыйным магазіне Саюздрэўзбыта ў Менску: дранка кровельная 1,5 метр.—аптовая цана—4 р. 94 к. за сотню, рознічная цана—5 р. 50 к. за сотню; дранка кровельная метаровая—аптовая цана—3 р. 29 к. за сотню, рознічня цана—3 р. 60 к. за сотню.

◆ У верасні Нараўлянская фабрыка „Красный Мозырянин" адправіла Віцебскай базе Белкаапсаюза розных кандзіцерскіх вырабаў на суму 18.168 руб. Экспертыза тавараў паказала абсалютна нездавальняючую якасць прадукцыі, у сувязі з чым была зроблена ўцэнка на 23,5 проц., што складае суму ў 4277 руб.

Наркамунутгандль прапанаваў дырэктару трэста „БЕЛКМО" прыцягнуць вінаватых у выпуску недабраякаснай прадукцыі да адказнасці.

◆ Наркамунутгандль БССР і Упаўнаважаны Камітэта загатовак па БССР абавязалі Белхарчпрамсаюз, Белкаапінсаюз і Белкаапсаюз па лініі нетрэсціраванага хлебапячэння арганізаваць дадаткова выпечку хлеба-булачных вырабаў вышэйшых гатункаў у радзе райцэнтраў БССР (Асвеі, Смілавічах, Смалявічах, Пухавічах, Любані, Бярэзіне, Чырвонаполы, Крупках, Лагойску і інш.).

◆ Збытавым Канвенцбюро ўстаноўлены наступныя рознічныя прадажныя цэны на гародніну першага гатунка, пачынаючы з 1-га лістапада 1935 г.: буракі і бручка—15 кап. кгр. (замест ранейшых 20 кап.), морква—20 кап. кгр. (замест ранейшых 25 кап.) цыбуля рэпчатая—1 р. 25 к. кгр. (замест ранейшых 1р. кгр.). Для прадукцыі II-га гатунка ўстаноўлена скідка ў размеры 15 проц.

◆ З 1-га лістапада прадажныя цэны па БССР на капусту квашаную ўстаноўлены ў размеры 26 капеек кгр. 1-га гатунка, 24 кап. кгр. II-га гатунка і 22 кап. кгр. III гатунка.

Цана памідораў салёных устаноўлена ў размеры 50 кап. кгр. I-га гатунка, 45 кап. кгр.—II гатунка і 40 кап. кгр. III гатунка. Цэны на гуркі застаўлены ранейшыя.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Правілы гандля швейнымі вырабамі

(*зацверджаны пастановай НКУГ СССР № 1005 ад 4/X—1935 г.*).

### I. Агульная частка.

1. Магазіны швейных вырабаў (спецыялізаваныя і змешаныя) павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента швейных вырабаў.

2. Магазіны швейных вырабаў снабжаюцца ў цэнтралізаваным парадку праз вышэйстаячыя гандлюючыя арганізацыі і непасрэдна пастаўшчыкамі ў межах вызначаных магазіну фондаў.

Звыш таго гаспадарча-разліковыя магазіны абавязаны прымаць меры к атрыманню дадатковых рэсурсаў швейных вырабаў шляхам самазакупак.

3. Планы завоза швейных вырабаў у магазін павінны прадугледжваць устанаўліваемыя вышэйстаячымі гандлюючымі арганізацыямі нармальныя астаткі (запасы) у належным асартыменце і якасці.

4. Магазіны павінны забяспечыць атрыманне тавара адпавядаючага пакупацельскаму попыту, шляхам складання папярэдніх заказаў, адборкі тавараў на базах пастаўшчыкоў, удзела ў выпрацоўцы прамысловасцю вытворчага асартымента і т. д. па наступным адзнакам:

а) род швейных вырабаў—мужчынскі, жаночы і т. д.;

б) від швейных вырабаў—пальто, піджак, брукі і т. п.;

в) матэрыялы — шэрсць, бабаўняна-папяровы і т. д.;

г) размер;

д) ростоўка;

е) фасон;

ж) колер.

5. Магазін праводзіць мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльненню рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупніка.

У гэтых мэтах пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін неабходна, каб у гадзіны максімальнага наплыва пакупнікоў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў, змяншаючы іх колькасць у гадзіны адносна слабага гандля.

6. Магазіны абавязаны забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі магазіна ўстаноўленага тэхмінімума і сістэматычна падвышаць іх кваліфікацыю.

Прадаўцы абавязаны мець неабходныя веды аб якасці матэрыяла швейных вырабаў, якасці іх пашыўкі, спосаба хавання швейных вырабаў, іх размераў, фасонаў, моды і т. п.

7. Адказнасць за дзейнасць магазіна ў цэлым нясе дырэктар магазіна, матэрыяльную-жа адказнасць нясуць тыя асобы, якім непасрэдна пераданы пад справаздачу матэрыяльныя каштоўнасці, а таксама і дырэктар магазіна ў выпадку непрыняцця ім своечасова адпаведных мер па барацьбе з хішчэннямі, растратамі, недахопамі і т. д.

8. Магазіны павінны ўтрымлівацца ў чыстаце, з захаваннем санітарных правіл.

9. У адпаведнасці з правіламі, зацверджанымі пастановай Наркамунутгандля СССР ад 21/IV—35 г. № 284, у кожным магазіне швейных вырабаў павінна быць кніга скаргаў і прапаноў.

### II. Прыёмка швейных вырабаў.

10. Прыёмка швейных вырабаў праводзіцца дырэктарам магазіна (загадчыка аддзела) асабіста або па яго даручэнню работнікамі магазінаў.

11. Адказнасць за прыёмку нясуць тыя асобы, якія фактычна праводзяць прыёмку.

12. Прыёмка швейных вырабаў павінна праводзіцца ў падсобным памяшканні магазіна, каб пазбегнуць заграмаджэнняў таварам гандлёвага зала і парушэнння нармальнага водпуска швейных вырабаў пакупніку.

13. Пры прыёмцы швейных вырабаў трэба перш за ўсё праверыць колькасць і стан прыбыўшых скрынак, а таксама адпаведнасць іх з данымі дакументаў адправіцеля, у прыватнасці, дакладнасць маркіроўкі.

14. У тых выпадках, калі цэласць скрынак выклікае сумненне ў прыёмшчыка, скрынкі павінны быць ускрыты і тавар, які знаходзіцца ў скрынцы павінен быць праверан.

Калі пры гэтым быў выяўлен недахоп ці недобраякаснасць швейных вырабаў—прыёмшчыкам, здатчыкам і прадстаўніком грамадскасці магазіна складаецца адпаведны акт.

15. Колькасная і якасная прыёмка швейных вырабаў праводзіцца ў тэрмін і ў парадку, прадугледжанымі дагаварамі з пастаўшчыком, а ў тых выпадках, калі тэрміны і парадак прыёмкі дагаворам непрадугледжаны—бакі кіруюцца тэрмінамі і парадкам, прадугледжанымі для якаснай прыёмкі інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 г. („Бюллетень Наркомвнуторга СССР"—1935 г № 2 стр. 35).

> Увага: Пры прыёмцы належыць звяртаць асаблівую ўвагу на адпаведнасць атрыманага тавара асартыментным адзнакам, прадугледжаным заказам.

16 Якасная прыёмка швейных вырабаў праводзіцца шляхам абавязковага індывідуальнага агляда кожнай рэчы.

17. Пры якаснай прыёмцы швейных вырабаў трэба правяраць як якасць матэрыяла, так і якасць пашыва, кіруючыся стандартамі, тэхнічнымі апісаннямі, прыкладзенымі да дагавора і правіламі разбракоўкі, паданымі гандлюючымі арганізацыямі.

18. Усе асобы, якія адказваюць за прыёмку швейных вырабаў, абавязаны прайсці праверачныя іспыты па ўсваенню імі правіл разбракоўкі швейных вырабаў, выданых гандлюючымі арганізацыямі.

19 Праверка размераў швейных вырабаў праводзіцца сантыметрам або металічнай лінейкай без нацяжкі (на манекенах ці на сталах)

20. У выпадку якаснай прыёмкі швейных выра баў на базе пастаўшчыка, прэтэнзіі па якасці могуць прад'яўляцца толькі пры выяўленні ва ўстаноўленыя тэрміны скрытых дэфектаў прынятых швейных вырабаў, або змены іх якасці, якія адбыліся пасля праведзенай прыёмкі не па віне прыёмшчыка (вытворчыя дэфекты, нядбайная ўпакоўка і т. д.)

## III. Хаванне швейных вырабаў.

21. Швейныя вырабы павінны захоўвацца ў падсобным памяшканні магазіна такім чынам, каб забяспечыць:

а) максімальнае выкарыстанне ёмкасці падсобнага памяшкання і хуткае знахаджэнне таго ці іншага віда тавара;

б) даступнасць прахода для ўчота і водпуска тавараў у гандлёвы зал магазіна;

в) папярэджанне швейных вырабаў ад псавання і пылу.

22. Падсобнае памяшканне для хавання швейных вырабаў павінна быць сухое, чыстае, добра вентыліруемае. Кропкі электраасвятлення павінны знаходзіцца на адлегласці не бліжэй 50 сантыметраў ад швейных вырабаў. Швейныя вырабы павінны знаходзіцца не бліжэй 1 метра ад крыніц атаплення.

23. Хаванне якіх бы там ні было швейных вырабаў без сцелажоў на падлозе сурова забараняецца.

Увага: Сцелажы павінны адстаяць ад падлогі не менш 25—30 сантым.

24. У мэтах захавання ад молі пашытых з суконных, шэрсцяных і камвольных швейных вырабаў (і мехавых)—іх трэба апырскваць неачышчаным скіпідарам, перасыпаць нафталінам, ліставым табаком і камфарой.

Увага: Усе мехавыя рэчы павінны на працягу лета не менш двух разоў праветрывацца і выкалачвацца.

25 Для ўстанаўлення правільнай сістэмы размяшчэння швейных вырабаў і іх хуткага знахаджэння, рады сцелажоў, клеткі і т. п. павінны быць размешчаны з адпаведнымі адзнакамі і нанесены на справачную карту размяшчэння швейных вырабаў.

26. Пры размяшчэнні швейных вырабаў неабходна сачыць за тым, каб уноў прыбыўшыя вырабы не закрывалі раней прыбыўшых. Перадача швейных вырабаў з падсобнага памяшкання ў гандлёвы зал павінна праводзіцца ў парадку чарговасці паступлення тавараў ад прамысловасці.

27. Увесь асартымент тавараў, якія знаходзяцца ў падсобным памяшканні, павінен быць і ў гандлёвым залі.

## IV. Водпуск швейных вырабаў.

28. Паступаючыя ў гандлёвы зал магазіна швейныя вырабы павінны быць папярэдня добра разгледжаны, рассартыраваны, расцэнены і ў неабходных выпадках разложаны ў каробках. Пры гэтым неабходна праверыць ці ёсць на швейных вырабах адпаведная адзнака рознічнай цаны, гатунка, размера і стандарта.

29 Пры паступленні швейных вырабаў з падсобнага памяшкання ў гандлёвы зал павінна быць звернута асаблівая ўвага на добрую пераўцюжку іх.

30. Абсталяванне магазінаў, якія гандлюююць верхнім гатовым адзеннем (за выключэннем ручнага тавара) прылаўкамі, які аддзяляюць прадаўцоў ад пакупнікоў—не з'яўляецца абавязковым.

Лепшым абсталяваннем для магазінаў швейных вырабаў, у прыватнасці, верхняга гатовага адзення, з'яўляюцца шафы з кранштэйнамі ўздоўж сцен, з перасоўнымі драпіроўкамі, якія забяспечваюць тавар ад псавання і пылу.

31. Галаўныя ўборы і бялізна павінны змяшчацца ў шафах на паліцах, прычым бялізна павінна знаходзіцца ў зашкляных каробках або ў спецыяльных каробках

32. У спецыялізаваных магазінах швейных вырабаў, а таксама і аддзяленнях швейных вырабаў універмагаў, швейныя вырабы павінны размяшчацца па наступных групах: 1) мужчынскае адзенне, 2) жаночае адзенне, 3) дзіцячае адзенне, 4) бялізна, 5) мужчынскія галаўныя ўборы, 6) дамскія галаўныя ўборы.

33. Гатовае адзенне павінна размяшчацца на кранштэйнах у вісячым стане такім чынам, каб у адным радзе знаходзіліся касцюмы, у другім—пальто, у трэцім—курткі і т. д.

34. Усе прадаўцы гатовага адзення павінны быць забяспечаны сантыметрам, а прадаўцы галаўных убораў кольцасантыметрам.

35. Для азнаямлення пакупнікоў з новымі фасонамі швейных вырабаў усе магазіны швейных вырабаў павінны мець модныя журналы.

36. Усе магазіны швейных вырабаў павінны мець прымерачныя з люстрамі, пажадана трайнымі трэльяжамі, якія дазваляюць бачыць адзетае адзенне, пальто і т. д. з усіх бакоў ва ўвесь рост адначасова.

37. Магазіны абавязаны забяспечыць пакупніку пры выбары ім швейных вырабаў поўную магчымасць азнаёміцца з усім асартыментам, які ёсць у магазіне.

38. Прадавец абавязан аказваць пакупніку неабходнае садзейнічанне пры выбары ім швейных вырабаў (від, фасон, размер і т. д.), азнаёмліваючы яго з якасцю і цаной пакупаемых вырабаў, дапамагаючы адзець вопратку, указваючы як „сядзіць“ прымяраемае адзенне і т. п.

Пры нзяўнасці якасных недахопаў тавара прадавец абязан папярэдзіць аб гэтым пакупніка.

39. У выпадку адсутнасці ў магазіне патрабуемых пакупнікам швейных вырабаў, прадавец абавязан прапанаваць пакупніку іншы тавар, які мог бы замяніць адсутнічаючы.

40. Тавар, які мае які-бы там ні было брак пускаецца ў продаж як непоўнацэнны па паніжанай, цане згодна зробленай уцэнкі).

41. Ва ўсіх магазінах, якія гандлююць швейнымі вырабамі, павінны быць спецыяльныя краўцы, забяспечаныя неабходным інструментам для выканання па патрабаванню пакупніка дробных пераробак (укарачэнне рукавоў, брук, перашыўка гузікаў, падкладванне ваты і т. д.).

42. Усе дробныя пераробкі пакупаемых швейных вырабаў робяцца бесплатна, а больш складаныя (выпарванне рукавоў, распарванне бакоў і т. п.) за асоба ўстаноўленую плату згодна зацверджаных мясцовымі аддзеламі Унутранага гандля расцэнак

43. Ва ўсіх магазінах швейных вырабаў павінны быць вывешаны аб'явы з пералічэннем усіх відаў пераробак, правадзімых магазінам бесплатна і відам пераробак, правадзімых за плату.

44. Для забеспячэння азнаямлення пакупніка з устаноўленымі цэнамі на швейныя вырабы, на відных месцах і ў магазінах павінны быць прэйскуранты рознічных цэн.

45. Акрамя прэйскуранта рознічныя цэны павінны быць абазначаны на ярлыках пры кожным тавары. На бракаваным тавары ярлыкі павінны мець штамп з паказаннем процанта скідкі, паніжанай цаны і слова „брак".

46. Магазін павінен арганізаваць належную інфармацыю аб маючымся ў магазіне асартыменце швейных вырабаў і т. п., у прыватнасці, шляхам абсталявання вітрын, кіруючыся пры гэтым правіламі абсталявання і ўтрымлівання вітрын у гандлёвых памяшканнях, зацверджанымі Наркамунутгандлем СССР 3-га ліпеня 1935 г.

Увага: Даведкі аб маючыхся ў магазіне швейных вырабах павінны давацца і па тэлефону.

47. Выдача швейных вырабаў пакупніку праводзіцца або непасрэдна прадаўцом (у невялікіх магазінах) або праз спецыяльныя кантрольныя сталы, арганізуемыя ў магазінах швейных вырабаў з лікам прадаўцоў не менш пяці.

48. Швейныя вырабы адпускаюцца пакупніку абавязкова ў упакоўцы (або ў каробках, або ў папяровай упакоўцы).

49. Магазін павінен арганізаваць сістэматычнае і штодзённае вывучэнне попыта пакупніка, кіруючыся пры гэтым цыркулярам Наркамунутгандля СССР ад 3 ліпеня г.г. за № 12636.

50. Гандлёвыя арганізацыі, у сістэму якіх уваходзіць магазін швейных вырабаў (спецыялізаваны або змешаны) абавязаны прыняць меры к таму, каб гэтыя правілы гандля швейнымі вырабамі былі даведзены да ведама работнікаў магазіна (або яго швейнай секцыі).

---

# АБ ГАНДЛІ СОЛЬЮ

## пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

28 кастрычніка 1935 г. № 774. г. Менск.

Праверкай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй пры НКУГ СССР па БССР, праведзенай 25/X—35 г. па Менску ўстаноўлена:

1. У магазінах Менхарчгандля №№ 29, 19, 35, 32 зусім адсутнічала соль як фасованая, так і развесная.

2. У магазінах Горспажыўсаюза №№ 2, 1, 100, 11, 3 адсутнічала соль развесная.

Выкліканыя на нараду загадчыкі вышэйпаказаных крам, дырэктар Менхарчгандля т. Рысь і нам. старшыні Горспажыўсаюза т. Плоткін устанавілі, што соль фасованая і развесная ў магазінах Менхарчгандля адсутнічала па віне загадчыкаў крам, загадчыка і нам. загадчыка складам. Па Менгорспажыўсаюзу адсутнічала развесная соль па віне выключна загадчыкаў крам.

Угледжваючы ў гэтым праяўленне сабатажа з боку загадчыкаў вышэйпаказаных крам у справе выканання пастановы ЦК КП(б)Б ад 24/X—35 г. па пытанню прасоўвання тавараў масавага попыта да спажыўца і адсутнічанне аперацыйнага і канкрэтнага кіраўніцтва з боку дырэктара Менхарчгандля т. Рыся і нам. старшыні Горспажыўсаюза т. Плоткіна і Горунутгандля т. Саф'яна гандлем таварамі масавага спажывання, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама заяву т. Рыся—дырэктара Менхарчгандля, што ім зняты з работы загадчык крамы № 29 т. Блюмін за праяўлены ім сабатаж у гандлі сольлю і што накладзена адміністрацыйнае спагнанне на:

а) загадчыка крамы № 35 т. Тайца—абвешчана суровая вымова з папярэджаннем;

б) загадчыка складам т. Гольдзіна і нам. загадчыка складам т. Ліўшыца—абвешчана вымова з папярэджанннем;

в) загадчыка крамы № 19 т. Вайнберга—зняты з работы і аддадзены пад суд.

2. Загадчыку крамы № 11 т. Сайкоўскаму абвясціць суровую вымову з папярэджаннем і занясеннем у працоўны спіс.

3. Загадчыку крамы № 1 т. Вініку—абвясціць вымову з занясеннем у працоўны спіс.

4. Папярэдзіць дырэктара Менхарчгандля т. Рыся, нам. старшыні Горспажыўсаюза т. Плоткіна, што ў выпадку паўторнага выяўлення фактаў адсутнічання солі ў іх крамах, яны будуць прыцягнуты да стражайшай адказнасці.

5. Паставіць на від т. Саф'яну—Горунутгандлю адсутнасць солі па магазінах г. Менска.

6. Улічваючы, што загадчык крамы № 19 т. Вайнберг не быў папярэджан аб тым, што ён павінен гандляваць сольлю, а таксама і тое, што ён неадкладна пасля праверкі выправіў дапушчаныя ім недахопы па гандлю сольлю,—загад № 396 ад 26/X—35 г. па Менхарчгандлю аб зняцці яго з работы і аддачы пад суд—адмяніць, абвясціўшы т. Вайнбергу суровую вымову з занясеннем у працоўны спіс. Заставіць яго на рабоце і папярэдзіць яго, што ў выпадку паўтарэння падобных фактаў, праяўленых ім у гандлі сольлю, ён будзе адхілен ад работы.

7. Прапанаваць усім Горрайунутгандлям правесці праверку выканання неаднаразовых указанняў Наркамунутгандля аб парадку гандля сольлю з тым, каб забяспечыць паўсямесна бесперабойны гандаль сольлю. Катэгарычна папярэдзіць усіх Горрайунутгандляў, што пры выяўленні фактаў адсутнасці тавараў масавага попыта ў крамах гарадоў і раёнаў, яны будуць прыцягвацца да стражайшай адказнасці.

8. Даручыць Горрайунутгандлям давесці гэты загад да ведама работнікаў бакалейна-гастранамічных магазінаў.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Правілы гандля рыбай і рыбнымі прадуктамі

*(зацверджаны пастановай НКУнутгандля СССР ад 27/IX—1935 г. № 952).*

## I. Агульныя палажэнні.

1. Гандаль рыбай і рыбапрадуктамі праводзіцца ў спецыялізаваных магазінах і палатках, а таксама ў аддзяленнях змешаных прадуктовых магазінаў.

2. Спецыялізаваныя магазіны, якія гандлююць рыбай і рыбапрадуктамі, павінны мець тры секцыі з наступным асартыментам тавараў:

**а) рыбная**—рыба часціковая і чырвоная, жывая, парная свежа марожаная і салёная, ікра часціковых парод;

**б) селядцовая**—усе віды селядцоў, камса,ількі і цюлька;

**в) гастранамічная**—балычныя вырабы, капчонасці, салёныя дэлікатэсы (сёмга, ласасіна, кета і т. п.), ікра чырвонай рыбы і кетавая, рыбаконсервы.

У рыбных аддзяленнях змешаных прадуктовых магазінаў тавар групіруецца ў двух секцыях а) рыбная, б) гастранамічная—селядцовая.

> Увага: Палаткі, якія гандлююць рыбай і рыбапрадуктамі, секцый не маюць.

3. Магазіны, якія гандлююць рыбай і рыбапрадуктамі, павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка ў адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента рыбы і рыбапрадуктаў.

4. Магазіны павінны праводзіць адпаведныя мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупніка. У прыватнасці, пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін у дзень, неабходна, каб у гадзіны максімальнага наплыва пакупнікоў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў, змяншаючы іх колькасць у гадзіны адносна слабага гандля.

5. Магазін абавязан забяспечыць прахаджэнне ўсімі работнікамі ўстаноўленага тэхмінімума па гандлю рыбай і рыбапрадуктамі і сістэматычна падвышаць іх кваліфікацыю.

## II. Снабжэнне.

6. Магазіны, палаткі і аддзяленні прадуктовых магазінаў, якія гандлююць рыбай і рыбапрадуктамі, абавязаны загадзя, але не пазней чым за адны суткі, даваць сваёй вышэйстаячай арганізацыі заяўкі на неабходную колькасць і асартымент рыбы і рыбапрадуктаў, якія павінны быць дастаўлены ў магазін (палатку).

7. Завоз рыбы і рыбапрадуктаў у магазіны і палаткі, праводзіцца па заяўках апошніх і ў адпаведнасці з колькасцю і асартыментам, паказанымі ў заяўцы.

8. Дастаўка тавара ў магазін (палатку) павінна праводзіцца як правіла, да пачатку работы магазіна.

9. Дастаўка тавараў у магазін (палатку) і яго прыёмка ў гадзіны гандля не павінны парушаць нармальнай работы магазіна па абслугоўванню пакупніка.

## III. Перавозка.

10. Дастаўка ў магазін рыбы і рыбапрадуктаў са станцый чыгункі, прыстаней і гандлёвых баз праводзіцца ў наступным парадку:

а) рыбатавары, упакаваныя ў закрытую наглуха тару (бочкі, кошыкі, скрынкі) перавозяцца любым транспартам пры абавязковай умове яго папярэдняй добрай ачысткі і прамыўкі і пакрыцця тавара брэзентам;

б) рыба свежа-марожаная, парная, россып'ю, а таксама рыба ўпакаваная ў кулі, перавозіцца ў закрытым транспарце. Перавозка ў адкрытым транспарце дапускаецца толькі пры ўмове яго папярэдняй добрай ачысткі і прамыўкі, падсцілкі пад тавар брэзента, а таксама пакрыцця брэзентам тавара зверху;

в) капчоныя, вараныя, марынованыя і іншыя дэлікатэсныя рыбныя тавары ў адкрытай тары перавозяцца ў закрытых фургонах або кузавах аўтамашын;

г) жывая рыба перавозіцца аўтагужавым транспартам у спецыяльна прыстасаваных для гэтай

мэты бочках, а таксама і драўляных і брэзентавых ваннах.

Увага: Фургоны гужавой цягі павінны мець спецыяльна абсталяваныя месцы для сядзення возчыкаў.

11. Сядзенне возчыкаў на таварах катэгарычна забараняецца.

12. Аўтамашыны і фургоны, якія прадназначаны спецыяльна для перавозкі рыбы і рыбапрадуктаў, павінны быць забяспечаны неабходным камплектам халатаў і фартукоў (як інвентар, які належыць данай аўтамашыне ці фургону), карыстанне якімі абавязкова толькі пры пагрузцы рыбы і рыбапрадуктаў на аўтамашыны і фургоны і выгрузцы на месцы дастаўкі, пасля чаго халаты і фартукі павінны быць зняты і ўбраны ў скрынку (аўтамашыны ці фургона), спецыяльна прыстасаваную для гэтай мэты.

13 Перавозка рыбы і рыбапрадуктаў рознага віда апрацоўкі ў аднэй аўтамашыне (фургоне) дапускаецца толькі пры ўмове аддзялення аднаго віда тавара ад другога брэзентамі.

14. Перавозка рыбы і рыбапрадуктаў транспартнымі сродкамі якія былі ў карыстанні пры перавозцы іншых грузаў, а таксама сродкамі, якія маюць запах, без папярэдняй добрай ачысткі гэтых транспартных сродкаў не дапускаюцца.

15. Транспартныя сродкі, якія прадназначаны для перавозкі рыбы і рыбапрадуктаў, павінны штодзённа падвяргацца добрай ачыстцы і прамыўцы.

16. Аўтамашыны і фургоны, якія—спецыяльна прадназначаны для перавозкі рыбы і рыбапрадуктаў, павінны мець санітарную кнігу, у якую заносяцца рэзультаты агляда транспарта сан. урачамі.

## IV. Прыёмка.

17. Прыёмка рыбы і рыбапрадуктаў у магазіне праводзіцца дырэктарам магазіна або асобамі, якія спецыяльна вызначаны ім для гэтай мэты.

18. Прыёмка рыбы і рыбапрадуктаў праводзіцца па колькасці месц, вазе і па якасці, прычым у першую чаргу праводзіцца сверка атрыманага тавара з данымі суправаджальных дакументаў.

19. У выпадку неадпаведнасці дастаўленых рыбы і рыбапрадуктаў даным суправаджальных дакументаў, прыёмшчыкам складаецца адпаведны акт з удзелам здатчыка і прадстаўніка проф. арганізацыі.

20. Недобраякасны або не адпавядаючы стандартам ці тэхнічным умовам (кандыцыям) тавар магазінам не прымаецца. Пастаўшчык абавязан безадкладна даслаць недапастаўлены і замяніць забракаваны тавар.

21. Прынятыя магазінам рыба і рыбапрадукты павінны быць неадкладна размешчаны ў падсобным памяшканні для хавання, а таксама ў гандлёвым залі магазіна для непасрэднага продажу.

## V. Хаванне.

22. Падсобнае памяшканне магазіна не павінна атаплівацца, павінна быць бязумоўна чыстым (з выбеленымі сценамі) і мець вентыляцыю.

23. У падсобным памяшканні павінны быць прыстасаваны для халоднага хавання рыбы і рыбапрадуктаў ванны са льдом і шафы-халадзільнікі; пры значных размерах магазінаў павінна быць абсталявана камера з халадзільнай устаноўкай, дастатковай для забеспячэння холадам данай загрузкі рыбы і рыбапрадуктаў.

24. Часціковая марожаная рыба ў халадзільных камерах захоўваецца ў той-жа тары, у якой атрымана з базы Парная рыба павінна хавацца ва льду. Салёная рыба захоўваецца ў сваёй тары на сцелажах. Буйная капчоная і вяленая рыба захоўваецца падвешанай—на лужоных круках, а дробная—у сваёй тары.

25. Хаванне рыбы і рыбапрадуктаў дапускаецца ў падсобным памяшканні пры ніжэйнаступнай тэмпературы і ў працягу наступных тэрмінаў:

| Рыба | Тэмпература | Тэрмін хавання |
|---|---|---|
| **а) пры халадзільнай устаноўцы:** | | |
| Марожаная . . . | Ад 2 град. і ніжэй | Да 15 сутак. |
| Парная . . . | Ад 0 град. і ніжэй | Да 3 сутак. |
| **б) у ледніках са льдом:** | | |
| Марожаная . . . | Ад 0 град. да +5 град. | Да 2 сутак. |
| Парная . . . . . | Ад 0 град. да +5 град. | 1 суткі. |
| Салёная . . . . | Ад 0 град. да +10 град. | 15 сутак і вышэй. |
| **в) у падвалах:** | | |
| Марожаная . . . | Ад 0 град. да +12 град. | Адны суткі. |
| Парная . . . . | Ад 0 град. да +12 град. | „ „ |
| Салёная . . . . | Ад 0 град. да +12 град. | 15 сутак і вышэй. |

## VI. Продаж.

26. Прылаўкі ў магазіне павінны быць пакрыты мрамарам або абіты ацынкаваным жалезам і мець шкляны бар ер.

Сцена за прылаўкам павінна быць абліцавана глянцаватымі пліткамі белага колера або абіта ацынкаваным жалезам на вышыні ад падлогі да двух метраў.

27. У гандлёвым залі свежая рыба з падсобнага памяшкання павінна дастаўляцца невялікай колькасцю, якая можа быць рэалізавана ў кароткі тэрмін (2—3 гадзіны) і павінна хавацца ў ваннах або на блюдах з ільдом. Салёная рыба кладзецца ў фаянсавыя, шкляныя чашкі або драўляныя акоранкі ці ва ўласнай тары.

28. Рыба і рыбапрадукты раскладваюцца на паліцах і прылаўках па пародах, відах апрацоўкі і гатунках, з абазначэннем на ярлыках назвы, гатунка і цаны тавара.

Увага: Ярлыкі на дротавай і драўлянай шпільцы катэгарычна забараняецца прымацоўваць да прадуктаў. Ярлыкі прымацоўваюцца да спецыяльных падставак або да тары, у якой знаходзіцца тавар.

29. Для рэзкі рыба-гастранамічных тавараў павінны быць у магазіне спецыяльныя дошкі з плотнага, цвёрдага дрэва, без шчылін і вышчэрбленых месц, якія павінны ўтрымлівацца ў чыстаце.

30. Для збірання зачыстак, спінных жучак, шпагата і т. п., пад прылаўкам павінны быць устаноўлены скрынкі, абітыя знутры ацынкаваным жалезам, чыста ўтрымліваемыя і не радзей чым раз на дзень апаражняемыя.

31. Магазін павінен мець неабходную колькасць сякер і нажэй для рубкі, пластоўкі і нарэзкі рыбы, а таксама вілак, лужоных кручкоў, шчыпцоў, лыжак, друшлякоў і т. п. для водпуска рыбы і рыбапрадуктаў. Паказаны інвентар павінен заўсёды знаходзіцца ў чыстым стане. Карыстацца ім для іншых мэтаў катэгарычна забараняецца.

32. Пры водпуску балычных вырабаў, а таксама салёных дэлікатэсаў (сёмга, ласасіна, кета і т. п.) прадавец абавязан па патрабаванню пакупніка нарэзаць іх ломцікамі.

33. Пры водпуску пакупніку развеснага тавара цэльным кавалкам, дапускаецца дабаўленне давеска не больш аднаго кавалка і не больш 10 проц. агульнай вагі заказа пакупніка, прычым давесак павінен адпавядаць гатунку і якасці адпускаемага тавара.

34. Катэгарычна забараняецца рэзка наступных тавараў (для давескі і т. п.): селядцоў усіх відаў, апрацоўкі і размера, маласолка, прасола і поўпрасола, капчоных (паравога і халоднага капчэння), а таксама і ласасёвых парод, не прадугледжаных прэйскурантам да продажу ў нарэзку.

Па патрабаванню пакупніка можа быць дапушчана рэзка толькі заломаў маласола, прасола і поўпрасола часцiковых буйных парод.

35. Пры водпуску пакупніку тавара нарэзка, узважванне і ўпакоўка праводзіцца на віду ў пакупніка.

36. Балычныя вырабы, салёныя дэлікатэсы (сёмга, ласасіна, кета і т. п.) і ікра павінны адпускацца пакупнікам у двайной паперы пергаментнай ці пад пергаментнай і абвёртачнай. Астатняя рыба і рыбапрадукты адпускаюцца ў абвёртачнай паперы.

37. Водпуск пакупніку тавара праводзіцца чыстай вагой і без адыходаў (згодна спецыяльнай інструкцыі па падрыхтоўцы рыбы і рыбапрадуктаў у магазінах да продажу і ў нормах адыходаў па паказаных таварах).

## VII. Санітарнае ўтрыманне магазіна.

38. Рыба і рыбапрадукты, якія знаходзяцца на паліцах, павінны ў летні час занавешвацца чыстай марляй ці другой лёгкай тканінай.

39. Увесь інвентар, якім карыстаюцца ў магазіне (нажы, шчыпцы, друшлакі і т. п.) павінен штодзённа, да пачатку гандля абмывацца гарачым содавым растворам і насуха выціраца чыстым ручнікам.

40. Ш тодзён на пасля сканчэння гандля павінна быць праведзена поўная ўборка магазіна: мыццё шчоткамі, гарачай вадой са шчолакам прылаўкаў, паліц, падлог, лавак для рубкі.

Увага: Для падмятання падлогі можна карыстацца сырымі апілкамі, якія, аднак, не могуць заставацца на падлозе ў якасці насціла.

41. Адзін раз у квартал у магазіне павінна праводзіцца дэзінфекцыя.

42. У працягу рабочага дня прадавец абавязан сачыць за чыстатой свайго рабочага месца і інвентара, які знаходзіцца ў яго.

43. Усе прадаўцы абавязаны штомесячна падвергацца медычнаму агляду.

Новыя работнікі прымаюцца на работу ў магазін толькі пасля праходжання медычнага агляда.

44. Прадаўцы павінны сачыць за чыстатой рук і нагцей, каротка астрыгаючы апошнія. Пры рабоце прадаўцы павінны быць у чыстай санвопратцы. У магазіне павінна быць не менш трох камплектаў санвопраткі на кожнага прадаўца. Пры ўсякіх адлучках з месца работы санвопратка павінна знімацца.

45. У магазіне павінен быць умывальнік з мылам, ручніком і шчоткай для рук.

46. У магазінах павінна весціся барацьба з мухамі і грызунамі.

47. Курыць у магазінне забараняецца, аб чым павінна быць вывешана аб'ява на відным месцы.

48. Гандлюючыя арганізацыі, у веданні якіх знаходзяцца магазіны, палаткі або аддзяленні, якія гандлююць рыбай і рыбапрадуктамі, абавязаны давесці гэтыя правілы да ведама ўсіх работнікаў гэтых магазінаў, палатак і аддзяленняў.

# ЦЭНЫ

## Рознічныя цэны на жывую птушку

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР.

27 кастрычніка 1935 г. **№ 374** г. Менск.

Улічваючы попыт спажыўца на жывую птушку— загадваю:

1. Тав. РЫСЮ—Менхарчгандль, т. КРЭЙНІНУ— Горспажыўсаюз арганізаваць продаж жывой птушкі ў асобных магазінах, прыстасаваных для гэтай мэты.

2. Крыніцамі закупкі птушкі павінны з'яўляцца— Рыбгас „Волма"—для качак і дэцэнтралізаваныя закупкі для астатняй птушкі.

3. Рознічныя цэны на жывую птушку ўстанавіць:

| | |
|---|---|
| Гусі | 5 р. 75 к. за кгр. |
| Качкі | 6 р. 50 к. „ „ |
| Куры | 5 р. 75 к. „ „ |
| Цыплята | 5 р. 75 к. „ „ |

4. Прапануецца для продажу жывой птушку з абіць спецыяльныя клеткі—кармушкі.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405. тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Аллерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1287. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2954.